МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ "ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

№ 7 (159)
ліпень 2015

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## У НУМАРЫ:

### ПРАЕКТ "ЦЫТУЙ СВАЁ!" РАСПАЧЫНАЕ ГОД БЕЛАРУСКАГА МЫСЛЕННЯ

Далучайся!
Наперадзе шмат цікавага!

*Чытайце на стар. 2*

### НАТАЛЛЯ ГАРДЗІЕНКА: ЗАХАЦЕЛАСЯ ВЯРНУЦЬ ІМЁНЫ

Сёння Наталля Гардзіенка — адзін з найбольш дасведчаных знаўцаў беларускай эміграцыі. Прапануем урыўкі з яе аповеду, запісанага Аляксандрам Тамковічам.

*Чытайце на стар. 4*

### У НЬЮ-ЁРКУ ПРЭЗЕНТАВАЛІ КНІГУ ЮЛІ АНДРУСІШЫН

У Нью-Ёрку, у беларускім цэнтры на Атлантык Авеню 401, 12 ліпеня адбылася прэзентацыя кнігі Юлі Андрусішын "Забыццю не адданае", якая выйшла ў Беларусі.

*Чытайце на стар. 5*

### ВЫЙШЛІ ЎСПАМІНЫ ВІТАЎТА КІПЕЛЯ

У Мінску ў выдавецтве Змітра Коласа выйшла кніга ўспамінаў аднаго з "патрыярхаў" беларускай паваеннай эміграцыі доктара Вітаўта Кіпеля — "Жыць і дзеіць".

*Чытайце на стар. 5*

НАВІНЫ МГА "ЗБС "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

## КАНСУЛЬТАТЫЎНЫ САВЕТ ПА СПРАВАХ БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ВЫСТУПІЎ З ПРАПАНОВАМІ ДА МЗС




1 ліпеня ў Міністэрстве замежных спраў Рэспублікі Беларусь адбылося першае пасяджэнне Кансультатыўнага савета па справах беларусаў замежжа. Удзел у ім бралі прадстаўнікі грамадскіх арганізацый і дзяржустановаў Беларусі, якія займаюцца справамі беларускага замежжа, а таксама прадстаўнікі беларускіх арганізацый з 18-ці краінаў. Згуртаванне "Бацькаўшчына" ў складзе Савета прадстаўляюць Алена Макоўская і Ніна Шыдлоўская.

Праграма пасяджэння складалася з дзвюх частак: першая была прысвечаная развіццю супрацоўніцтва ў галіне культуры, а другая – гандлёва-эканамічнаму і інвестыцыйнаму супрацоўніцтву. Пасля кожнага асноўнага даклада ахвочыя выказваліся і задавалі пытанні. А на падставе выказванняў ад прадстаўнікоў беларускіх арганізацый з Іспаніі, Італіі, Чэхіі, Латвіі, Малдовы, Казахстана, Расіі і Беларусі былі сфармуляваныя прапановы, якія былі зафіксаваныя ў пратаколе пасяджэння і паступілі ў Міністэрства замежных спраў.

У прыватнасці, было прапанавана распрацаваць дзяржаўную праграму "Беларусы ў свеце" на 2016–2020 гады, актывізаваць працу па ўшанаванні слынных беларускіх дзеячаў, а таксама падключыць беларускую дыяспару да інфармавання аб праектах "Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў". Ёсць патрэба ў распрацоўцы дапаможніка па вывучэнні беларускай мовы як замежнай – магчымасць яго падрыхтоўкі будзе разгледжаная МЗС.

Шмат увагі было нададзена пытанням каардынацыі і ўзаемадзеяння беларусаў замежжа як паміж суполкамі, так і з іх гістарычнай Радзімай. Прапануецца больш актыўна запрашаць беларускія творчыя калектывы замежжа, у тым ліку і моладзь, для ўдзелу ў культурных мерапрыемствах, што праводзяцца ў Беларусі. Прагучала ідэя ладзіць прэс-туры ў Беларусь для замежных СМІ, у тым ліку і друкаваных выданняў беларусаў замежжа, а ў друкаваных СМІ Беларусі стварыць раздзелы, прысвечаныя беларускай дыяспары.

Дыппрадстаўніцтвам рэкамендуюць шчыльней кантактаваць з беларускімі дыяспарамі, а афіцыйным прадстаўнікам Беларусі падчас іх паездак за мяжу ладзіць сустрэчы з суайчыннікамі, якія там пражываюць.

Для лепшага абмену інфармацыяй паміж беларускімі супольнасцямі замежжа прапануецца стварыць інтэрнэт-партал, які тэарэтычна мог бы выкарыстоўвацца і як пляцоўка для прасоўвання за мяжой экспартных беларускіх тавараў.

Таксама ўдзельнікі пасяджэн-



## КАНСУЛЬТАТЫЎНЫ САВЕТ ПА СПРАВАХ БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ВЫСТУПІЎ З ПРАПАНОВАМІ ДА МЗС

*Працяг. Пачатак на стар. 1*

ня прапанавалі вывучыць мэтазгоднасць стварэння ў Беларусі цэнтральнай арганізацыі накшталт “Россотрудничества”, што існуе ў Расіі. Такая арганізацыя мела б на мэце каардынацыю супрацоўніцтва з прадстаўнікамі беларускай дыяспары, папулярызацыю беларускай культуры і беларускіх тавараў за мяжой.

Для актывізацыі эканамічнага супрацоўніцтва ў наступным годзе прапануецца правесці дзелавы форум прадстаўнікоў беларускай дыяспары.

Кансультатыўны савет не абмінуў увагай і пытанне аб магчымым паляпшэнні прававога становішча беларусаў замежжа. Міністэрства замежных спраў Беларусі будзе разглядаць мэтазгоднасць увядзення “карты беларуса”, магчымасць адмены працэдуры рэгістрацыі для беларусаў замежжа падчас іх візітаў у Беларусь, а таксама магчымасць распрацоўкі механізму выплаты пенсій грамадзянам Беларусі, якія стала пражываюць за мяжой. У адукацыйнай сферы прапанавана запрашаць да ўдзелу ў рэспубліканскіх алімпіядах па беларускай мове і па гісторыі Беларусі пераможцаў адпаведных алімпіяд і конкурсаў з ліку прадстаўнікоў беларускага замежжа, а пры паступленні ў ВНУ прадугледзець наяўнасць квотных месцаў для беларусаў замежжа – незалежна ад наяўнасці пагадненняў аб адукацыі з краінамі іх пражывання.

Прапановы Кансультатыўнага савета тычыліся і такіх лакальных ды надзённых пытанняў, як дапамога беларускай дыяспары ў Ліепаі (Латвія) з рамонтам і арэндай памяшкання, а таксама спрыянне таму, каб беларускія самадзейныя калектывы Італіі змаглі выступіць у беларускім павільёне падчас выставы ЭКСПА-2015 у Мілане. Акрамя таго, у Італіі прапануецца стварыць беларускі культурны цэнтр. Таксама будзе разглядацца магчымасць стварэння беларускіх грамадскіх арганізацый у Іспаніі і на Сярэднім Захадзе ЗША.

Наступнае пасяджэнне Кансультатыўнага савета дамовіліся правесці ў другім квартале 2016 года. Да гэтага часу будзе разгледжаная мэтазгоднасць правядзення такіх сустрэч штоквартальна.

*Інфармацыйны цэнтр МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”*
*Фота - прэс-служба МЗС*

## ПРАЕКТ “ЦЫТУЙ СВАЁ!” РАСПАЧЫНАЕ ГОД БЕЛАРУСКАГА МЫСЛЕННЯ

Супольны культурны праект “Цытуй сваё!” не заканчваецца, а толькі распачынае Год беларускага мыслення. Далучайся! Наперадзе шмат цікавага!




Праект “Цытуй сваё!” быў распачаты ў канцы траўня шэрагам інстытуцый грамадзянскай супольнасці ды адукацыйных устаноў (Міжнародны кансорцыум “ЕўраБеларусь“, Лятучы ўніверсітэт, Беларускі саюз дызайнераў, грамадская кампанія “Будзьма беларусамі!“, Беларускі Калегіум, “Мова Нанова”). Ён заклікаў беларусаў звярнуцца да найлепшага з беларускай думкі, згадаць перліны, на якія мы не звяртаем увагі, бо яны побач, свае.

Цягам двух месяцаў кожны дзень на сайце budzma.by мы разам трапілі ў рэзананс беларускага мыслення, сустракаліся са слушнымі думкамі і прыгожымі вобразамі. Максім Багдановіч і Андрэй Волан, Валянцін Акудовіч і Леў Сапега, Вольга Гапеева і Васіль Быкаў – дзясяткі імёнаў і дзясяткі думак, якія калісьці займалі розум і сэрца нашых продкаў і сёння выклікаюць захапленне ад дакладнасці, жаданне працягнуць развагу ці паспрачацца ў нас.

За два месяцы мы адкрылі толькі невялікую частку гэтага скарбу. Дзякуй усім, хто далучыўся да складання анталогіі айчыннай думкі! На адрас праекта cytuj.svajo@gmail.com было даслана больш за 250 цытат. Сярод фан-клуба беларускага мыслення хацелася б асабліва аддзячыць і адзначыць некалькі чалавек, якія даслалі найбольш арыгінальныя і цікавыя падборкі цытатаў: Ірына Часнок, Антон Шустаў, Алесь Гізун, Наталля Свірыда, Яўгенія Чаплінская, Зміцер Бейнарт-Саладуха, Антон Васільеў. Дзякуй вам, сябры!

Энтузіязм фан-клуба і прыгажосць думак не дазваляе нам спыняцца! Таму праект “Цытуй сваё!” не заканчваецца, а толькі распачынае Год беларускага мыслення.

Што далей? Пашыраем кола фан-клуба беларускай думкі! Уступаем у суполку “Цытуй сваё!” у Facebook (https://www.facebook.com/groups/cytuj/), запрашаем сяброў, працягваем дасылаць і абмяркоўваць улюбёныя цытаты беларускіх аўтараў там.

Такім чынам, мы разам працягваем збіраць трапныя, глыбокія, нечаканыя думкі, каб выдаць іх у выглядзе кнігі зручнага кішэннага фармату. Канцэпт-макет кнігі распрацоўваецца. Хочацца, каб у выніку атрымалася зручная ў карыстанні, прывабная на выгляд і дотык, вартасная па змесце рэч. Каб і самому хацелася мець, і падарыць было не сорамна!

Акрамя гэтага, цягам Года беларускага мыслення, які нестандартна пачаўся ў траўні, мы разам будзем паступова засвойваць беларускую інтэлектуальную спадчыну – у словах, вобразах і дзеяннях. Неўзабаве да асэнсавання далучацца мастакі і дызайнеры, якія ўвасобяць ідэі і персоны ў візуальныя вобразы.

Сачы за навінамі і новымі падзеямі праекта ў Facebook! Чытай! Думай! Слухай думкі папярэднікаў! Пагаджайся альбо спрачайся з імі!

Цытуй сваё!

*Паводле budzma.by*

### ВІНШАВАННІ

## ВІНШАВАННЕ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ

Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сябраў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына”, якія нарадзіліся ў жніўні: **Уладзіміра Арлова, Адама Мальдзіса, Марыю Міцкевіч, Валера Санько, Алега Трусава** (Беларусь), **Зміцера Ярашэўскага** (Германія), **Янку Запрудніка** (ЗША), **Юрыя Сташкевіча** (Малдова), **Яраслава Іванюка** (Польшча) і **Віктара Чайчыца** (Расія). Зычым шаноўным імяннінікам цеплыні і спакою на сэрцы, пазітыўных навінаў, гумору і моцнага здароўя!

2 жніўня 25-годдзе сустракае **Наста Дашкевіч** (Беларусь). Зычым дарагой юбілярцы сонечных усмешак, моцы, веры і радасці!

*Управа МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”*



# ЗВАРОТ МІЖНАРОДНАЙ КАНФЕДЭРАЦЫІ БЕЛАРУСАЎ ПАМЕЖЖА ДА БЕЛАРУСКІХ АРГАНІЗАЦЫЙ КРАІН-СУСЕДАК БЕЛАРУСІ

6–27 чэрвеня 2015 г. у г. Даўгаўпілсе (Латвія) і г. Вісагінасе (Літва) адбылася 2-я канферэнцыя Міжнароднай канфедэрацыі беларусаў памежжа з удзелам прадстаўнікоў беларускіх арганізацый Латвіі, Літвы, Расіі і Украіны. У канферэнцыі ўзялі ўдзел прадстаўнікі грамадскіх і дзяржаўных структур Беларусі.

Канферэнцыя лічыць, што беларускія арганізацыі краін-суседак Рэспублікі Беларусь з'яўляюцца найбольш актыўнымі ў падтрыманні кантактаў са сваёй этнічнай радзімай, звязаныя з ёй мноствам роднасных, культурных, эканамічных адносінаў, рэгулярна абменьваюцца рознымі дэлегацыямі і пастаянна ўдзельнічаюць у рознага роду мерапрыемствах, якія праходзяць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

Для далейшага пашырэння гэтых сувязяў, абмену досведам і каардынацыі сваёй дзейнасці і ўлічваючы, што пры гэтым цалкам адсутнічае элемент дублявання і канкурэнцыі з іншымі арганізацыямі, Канферэнцыя пацвердзіла неабходнасць існавання міжнароднай беларускай арганізацыі за межамі Беларусі, прыняла палажэнне аб прыёме, звароты па памежных пераходах і па Еўрарэгіёне "Азёрны край", абмянялася думкамі па сваёй далейшай працы, актывізацыі кантактаў і каардынацыі дзейнасці беларускіх арганізацый краін-суседзяў Рэспублікі Беларусь. Канферэнцыя выражае занепакоенасць адсутнасцю рэакцыі Міністэрства энергетыкі РБ па жаданні беларусаў з Ігналінскай АЭС працаваць на Беларускай АЭС.

Канферэнцыя пагадзілася мець сваёй стратэгічнай мэтай штогадовыя канферэнцыі, якія будуць праводзіцца ў краінах-суседках нашай этнічнай Радзімы. Рашэнне аб месцы правядзення 3-й канферэнцыі ў 2016 г. будзе прынята каардынатарамі канфедэрацыі.

Канферэнцыя прызнала здавальняючай дзейнасць каардынацыйнага цэнтра канфедэрацыі на базе Беларускага культурнага цэнтра "Крок" у г. Вісагінасе, Літва.

Удзельнікі мерапрыемства выказалі падзяку за падрыхтоўку канферэнцыі

Беларускаму культурна-асветніцкаму таварыству "Уздым" (Латвія) і Беларускаму культурнаму цэнтру "Крок" (Літва).

Канфедэрацыя запрашае беларускія арганізацыі краін-суседак Рэспублікі Беларусь удзельнічаць у яе працы.

Прынята 27 чэрвеня 2015 г.
Даўгаўпілс, Латвія – Вісагінас, Літва

*Беларускае культ.-асветн. таварыства "Уздым" (Латвія) - В. Амбросаў*

*Беларускі культурны цэнтр "Крок" (Літва) - А. Давідзюк*

*Усеўкраінскае аб'яднанне "Беларусь" (Украіна) - В. Камісарук*

*Беларускае грамадскае аб'яднанне па сувязях з суайчыннікамі за мяжой "Радзіма" (Беларусь) - М. Дубянок*

# У НЯДЗЕЛЬНАЙ ШКОЛЕ СВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА Ў ЛОНДАНЕ З'ЯВІЛАСЯ БАЦЬКОЎСКА-НАСТАЎНІЦКАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ

Бацькі дзяцей, якія наведваюць беларускую нядзельную школу св. Кірылы Тураўскага, стварылі бацькоўска-настаўніцкую асацыяцыю. Яе мэта – дапамагаць адукацыі дзяцей праз развіццё эфектыўных стасункаў паміж супрацоўнікамі, бацькамі і ўсімі, хто мае дачыненне да школы; падтрымліваць і забяспечваць дзейнасць школы і адукацыйнага працэсу.

Школе ўжо амаль год і за гэты час яна паспяхова прыцягнула значную колькасць дзяцей і бацькоў на аднагадзінныя заняткі ў нядзелю раніцай. Большасць дзяцей – са змяшаных сем'яў, размаўляюць (ці вучацца размаўляць) па-беларуску, гуляюць, чытаюць і спяваюць разам.

Асацыяцыя цяпер уключае 10 бацькоў, настаўніцу Наталлю Раманчук і кіраўніка школы а. Сяргея Стасевіча. Іншыя дзеткі таксама могуць далучыцца да школы, а бацькі – да Асацыяцыі, і дапамагчы іх дзейнасці.

Адрас школы – **Marian House, Holden Ave, London N12 8HY**. Электронны адрас настаўніцы: **nataszarom@mail.ru.**

*facebook.com/belbritain*

# КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА ЖНІВЕНЬ 2015 ГОДА

6 жніўня – 175 гадоў таму ў в. Калачычы (цяпер Глускі р-н) нарадзіўся Альгерд Абуховіч (1840–1898), пісьменнік, удзельнік паўстання 1863–1864 гг.

7 жніўня (ці 20 ліпеня) – 135 гадоў таму ў Слоніме нарадзіўся Гальяш Леўчык (сапр. Ілья Ляўковіч; 1880–1944), паэт, асветнік, калекцыянер. Загінуў у Варшаве.

7 жніўня – 100 гадоў таму, у 1915-м, у Вільні выйшаў апошні нумар "Нашай Нівы".

7 жніўня – 20 гадоў таму ў Мінску памёр Максім Танк (сапр. Яўген Скурко; 1912–1995), грамадскі дзеяч, паэт. Пахаваны ў в. Пількаўшчына Мядзельскага р-на.

8 жніўня – 235 гадоў таму ў сваім маёнт. Грушаўка (цяпер Ляхавіцкі р-н) скончыў жыццё самагубствам Тадэвуш Рэйтан (1740–1780), палітычны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай.

9 жніўня – 105 гадоў таму ў маёнт. Жлобаўцы (цяпер Ваўкавыскі р-н) нарадзілася Ларыса Геніюш (дзяв. Міклашэвіч; 1910–1983), паэтэса, вязень ГУЛАГу.

10 жніўня – 95 гадоў таму, у 1920-м, у Мінску пачала дзейнічаць тэатральная група Уладзіслава Галубка (ад 1926 г. – Беларускі дзяржаўны вандроўны тэатр, ад 1932 г. – трэці Беларускі дзяржаўны тэатр; дзейнічаў да 1937 г.).

14 жніўня – 630 гадоў таму, у 1385-м, падпісаная Крэўская ўнія — дамова аб саюзе Вялікага Княства Літоўскага і Каралеўства Польскага.

14 жніўня – 40 гадоў таму, у 1975-м, у ЗША Янка і Станіслаў Станкевічы заснавалі Вялікалітоўскі фонд імя Льва Сапегі — прыватны дабрачынны фонд для развіцця беларускай навукі.

15 жніўня – 30 гадоў таму ў Чыкага (ЗША) памёр Часлаў Будзька (1913–1985), дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

16 жніўня – 70 гадоў таму, у 1945-м, паміж СССР і Польшчай падпісана дамова аб змене савецка-польскай мяжы: Польшчы былі перададзены 17 раёнаў Беластоцкай вобласці разам з Беластокам і 3 раёны Берасцейскай вобласці.

16 жніўня – памёр Язэп Семяжон (Семяжонаў; 1914–1990), перакладчык, літаратар. Пахаваны на Паўночных могілках у Мінску.

19 жніўня – 90 гадоў таму, у 1925-м, у Вільні выйшаў першы нумар газеты "Жыццё беларуса" (выдавалася да 12 лістапада 1925 г.). Рэдактар-выдавец Я.Туркевіч (ад № 8 – У. Варава).

28 жніўня – 100 гадоў таму ў в. Бойдаты (цяпер Ваўкавыскі р-н) нарадзіўся Часлаў Найдзюк (1915–1995), грамадскі дзеяч, дзеяч эміграцыі ў ЗША.

# НАТАЛЛЯ ГАРДЗІЕНКА: ЗАХАЦЕЛАСЯ ВЯРНУЦЬ ІМЁНЫ

*Кандыдат гістарычных навук Наталля Гардзіенка ўжо паспела трапіць у гісторыю сама, калі стала першай кіраўніцай створанай нядаўна пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў секцыі нон-фікшн, то бок непрыдуманай літаратуры.*

*Але не толькі гэта з'яўляецца яе дасягненнем. Сёння Наталля Гардзіенка — адзін з найбольш дасведчаных знаўцаў беларускай эміграцыі.*

*Прапануем урыўкі з яе аповеду, запісанага Аляксандрам Тамковічам. Цалкам гутарку чытайце на сайце zbsb.org.*

Вельмі добра памятаю, што, калі на гістфаку мы здавалі іспыт па пасляваеннай гісторыі Беларусі, я надта не хацела, каб мне трапілі пытанні па беларускай дыяспары. З-за фрагментарнасці інфармацыі гэтая тэма была для мяне цёмным лесам. Тады я літаральна малілася, каб мне не даталася тое, чым займаюся сёння.

У змене стаўлення зноў, як часта ў маім жыцці, адыграла ролю асоба. На пачатку 2000-х гадоў я пазнаёмілася з архівістам, бібліятэкарам, даследчыкам беларускай эміграцыі з Нью-Ёрка Лявонам Юрэвічам. Ад таго часу пачалося супрацоўніцтва і сяброўства. Калі скончыла сваю дысертацыю, XVIII стагоддзе стала мне не вельмі цікавым, прыйшла так званая "стомленасць ад матэрыялу". Нехта з калегаў слушна заўважыў: гісторыку трэба праз пэўны час змяняць або тэму, або перыяд даследавання, бо "прытупляецца" ўспрыманне матэрыялу. Для мяне XVIII стагоддзе змянілася на XX, на тэму эміграцыі.

На пачатку 2000-х гадоў мы рыхтавалі да друку "Хроніку беларускага жыцця на чужыне" Міколы Панькова. Гэта храналагічныя запісы (памесячныя і нават падзённыя) пра тое, што адбывалася ў асяродках беларускага замежжа на Захадзе, пачынаючы ад канца 1940-х гадоў і да пачатку 1980-х. Я дапамагала рабіць іменны паказнік. Вельмі ўразіла, што шмат хто з некалькіх тысяч узгаданых прозвішчаў былі цалкам невядомыя для нас, складана было нават расшыфроўваць ініцыялы. Стала крыўдна за гэтых людзей, захацелася вярнуць імёны.

Паколькі мая дысертацыя была прысвечаная жанчынам, то і тут я вырашыла аддаць прыярытэт менавіта жанчынам на эміграцыі. І калі пра беларускую эміграцыю наогул было даволі мала інфармацыі, то пра жанчын — амаль не было.

Дзякуючы Лявону Юрэвічу і Віктару Кавалеўскаму (беларусу з Аўстраліі) я пачала збіраць адрасы беларускіх жанчын, да якіх можна было б звярнуцца, каб запісаць іх успаміны.

Было напісана вельмі шмат лістоў у Канаду, ЗША, Аўстралію. Хтосьці адгукнуўся, як Раіса Жук-Грышкевіч з Канады, з якой у нас наладзілася ліставанне. Але найбольш актыўнымі аказаліся беларусы Аўстраліі, прычым менавіта мужчыны. Яны вырашылі, што будзе лепш не адказваць на мае пытанні лістамі, а запрасіць мяне туды, каб я на месцы паразмаўляла з іх жанчынамі і запісала ўсё, што хачу. Папярэдне, канечне, яны высветлілі, хто я такая, зрабілі адпаведныя даведкі ў Згуртаванні беларусаў свету "Бацькаўшчына".

Так нечакана праз месяц пасля абароны дысертацыі я з'ехала на чатыры тыдні да аўстралійскіх беларусаў. Было гэта ўвесну 2003 года.

Тыдзень я правяла ў Мельбурне, тыдзень — у Адэлаідзе, два тыдні — у Сіднеі. Жыла ў сем'ях беларускіх эмігрантаў. Яны арганізоўвалі сустрэчы з іншымі беларусамі. Я запісала тады дзясяткі інтэрв'ю. Дакладней — паспела запісаць. На жаль, шмат удзельнікаў тых размоў ужо адышлі ў іншы свет.

Аўстралійскія ўспаміны сталі асноўнай часткай маёй першай кнігі. Але ў працэсе працы над ёй стала зразумела, што пісаць выключна пра жанчын не выпадае — пра беларусаў Аўстраліі наогул амаль нічога не было вядома ў Беларусі. У выніку, кніга была прысвечаная і беларусам, і беларускам Аўстраліі. Яна пабачыла свет у 2004-м і стала першай маёй прыступкай у вывучэнні беларускай эміграцыі.

У працэсе працы над кнігай у мяне наладзіліся добрыя стасункі са Згуртаваннем беларусаў свету "Бацькаўшчына", і паступіла прапанова працягнуць працу над тэмай. Тады беларусы Брытаніі шукалі некага, каб папрацаваў з іх архівамі, і я паехала туды. Так з'явілася другая кніга ў 2010 годзе. Потым, якраз у перыяд вымушанага дармаедства, я змагла папрацаваць з архівамі канадскіх беларусаў, на падставе якіх плануецца яшчэ адна кніга. Таксама разам з Лявонам Юрэвічам за апошнія гады мы выдалі ўжо дзве кнігі пра Раду БНР на эміграцыі і рыхтуем трэцюю.

Цікавасць да эміграцыі адлюстравалася не толькі ў кнігах. Яшчэ калі ішла праца над кнігай пра беларусаў Аўстраліі, паступіла прапанова паўдзельнічаць у выданні альманаха "Запісы Беларускага інстытута навукі і мастацтва". Гэты альманах пачаў выдавацца яшчэ ў 1950-х у Нью-Ёрку, калі інстытут быў толькі заснаваны.

Пачынаючы з 2004 года да сёння я рэдагую "Запісы", а выдаюцца яны штогод.

Ад самага пачатку гэтай працы беларусы замежжа, найперш з БІНіМа, перадалі вельмі шмат каштоўных дакументаў. З часам нашая кватэра пачала нагадваць музей, таму я ўсё перанакіравала ў больш адпаведнае месца — Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, той самы, дзе цяпер працую. Тут мы стварылі своеасаблівы Цэнтр камплектавання і вывучэння дакументальнай спадчыны беларускага замежжа, які можа займацца збіраннем матэрыялаў больш эфектыўна. Дзякуючы нашай працы летась у Беларусь з ЗША сярод іншага былі вернутыя аўтографы Янкі Купалы і Уладзіміра Жылкі.

Цікавасць да беларускага замежжа ў мяне шматбаковая. І выставу неяк удалося арганізаваць, і інтэрв'ю запісваюцца, і архівы збіраюцца, і секцыю на Кангрэсе даследчыкаў Беларусі ў Коўна арганізоўваю. Даволі шмат даводзіцца займацца падрыхтоўкай да друку розных эміграцыйных ці эміграцыязнаўчых тэкстаў. Багата кніг было выдадзена ў серыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны" Згуртавання беларусаў свету.

У 2010 годзе пачалося таксама супрацоўніцтва з выдавецтвам "Лімарыус". З'явілася ідэя стварыць серыю, дзе б выдаваліся ўспаміны беларускіх эмігрантаў. Аляксандр Фядута прапанаваў пашырыць ініцыятыву да выдання наогул беларускіх мемуараў. Так паўстала "Беларуская мемуарная бібліятэка".

Тэма эміграцыі мне даволі шмат дала. Але, бадай, самае каштоўнае — вялікая колькасць цікавых знаёмстваў з беларусамі (і не толькі) з розных краінаў. Асабліва важнымі асобамі для мяне сталі айцец Аляксандр Надсан, які дапамагаў у працы над кнігай пра беларусаў Вялікабрытаніі і ў размовах з якім прайшло багата гадзінаў, Вітаўт Кіпель, што падтрымлівае, бадай, усе мае эміграцыязнаўчыя ініцыятывы і чый прыклад актыўнай жыццёвай пазіцыі дае і мне сілы для працы, Янка Запруднік, што актыўна папаўняе нашыя архіўныя фонды, дапамагае матэрыяламі, Юры Туронак, чыя даследчая праца для мяне заўсёды будзе прыкладам дакладнасці і сумленнасці… Можна згадваць дзясяткі імёнаў беларусаў Аўстраліі, Брытаніі, ЗША, Канады, Польшчы ды іншых краінаў, з кім давялося спаткацца, якія пакінулі след у маім жыцці. Гэтыя сустрэчы не толькі ўзбагацілі мае веды пра эміграцыю, але і шмат далі ў разуменні каштоўнасці міжчалавечых адносінаў.

Нягледзячы на тое, што ёсць яшчэ багата планаў і даследчых, і выдавецкіх, і іншых, сёння я задаволеная тым, што ўжо ўдалося зрабіць.

Пэўная ідэалізацыя эміграцыі, якая была ўласцівая 1990-м гадам, па сутнасці, знікла. Тады яна была цалкам абгрунтаванай, бо тэма эміграцыі толькі-толькі адкрывалася. Але сёння створаныя падставы для сапраўды сур'ёзных даследаванняў, і для разумення, што беларускае замежжа шмат у чым ёсць адлюстраваннем грамадства метраполіі, там дзейнічаюць тыя самыя механізмы, існуюць тыя самыя праблемы. Вельмі важна ўсведамляць, што і ў Беларусі, і ў замежжы жывуць тыя ж беларусы, яны — часткі адзінай нацыі, складнікі агульнай нацыянальнай гісторыі і культуры.

*Аўтар удзячны культурніцкай кампаніі "Будзьма беларусамі!"*

*Паводле Аляксандра Тамковіча, "Новы Час"*

# У Нью-Ёрку прэзентавалі кнігу Юлі Андрусішын

*У Нью-Ёрку, у беларускім цэнтры на Атлантык Авеню 401, 12 ліпеня адбылася прэзентацыя кнігі Юлі Андрусішын "Забыццю не адданае", якая выйшла ў Беларусі. Сваімі ўражаннямі ад прэзентацыі дзеліцца яе ўдзельніца Ганна Сурмач.*

На пачатку прэзентацыі ў сваім уступным слове аўтарка падзялілася развагамі пра тое, чаму і для каго напісала кнігу, што яшчэ засталося не дапісанае.

Далей прамаўляла Валянціна Трыгубовіч — рэдактарка кнігі, якая высока ацаніла значнасць выдання. Зянон Пазьняк гаварыў пра тое, што вельмі важна дакладна апісваць рэальнае жыццё свайго часу, а не толькі выбітныя падзеі і гераічныя ўчынкі.

Аўтарка гэтых радкоў выказала сваю асабістую радасць з таго, што можа сёння трымаць кнігу у руках, бо ад самага пачатку была прысутная пры яе нараджэнні — ад ідэі напісання і да сумеснага з Юляю абмеркавання зместу. Таксама я звярнула ўвагу прысутных на выставу, якая была падрыхтавана да прэзентацыі, дзе прадстаўлена творчасць сп-ні Юлі як мастачкі-вышывальшчыцы.




Сяргей Капытка — прадстаўнік новай беларускай эміграцыі ў Амерыцы нагадаў, што сп-ня Юля шмат дапамагала новым эмігрантам на пачатку жыцця ў новым месцы. Яе гасцінная хата заўсёды была адчыненая для новых людзей. Асабліва падкрэсліў значнасць для гуртавання новай эміграцыі паездак у "Родны кут" — пабудаваны сям'ёй Андрусішыных беларускі асяродак у гарах, дзе заўсёды было ўтульна пасядзець ля вогнішча, пагаманіць, паспяваць.

Адметнасцю прэзентацыі і сюрпрызам для ўсіх была прысутнасць за сталом побач з аўтаркаю і яе гасцей, што адмыслова прыехалі на свята. З Вільні разам з 15-гадовым сынам Янкам прыляцела Алеся Луцкевіч, дачка Юркі Луцкевіча і ўнучка Антона Луцкевіча. Яна таксама ўзяла слова і на мілагучнай беларускай мове выказала свае пачуцці і падзялілася ўспамінамі пра бацьку. Сястра спні Юлі па бацьку Вольга Пішкова прыехала з расійскага Іжэўска, дзе цяпер жыве. Яна займаецца справаю ўшанавання памяці Песлякаў, у Сібіры мясцовыя краязнаўцы знайшлі іх сядзібу і аднаўляюць яе. Абедзве госці згадваюцца аўтаркаю ў кнізе і сваёй прысутнасцю як бы ажывілі яе старонкі.

Сп-ня Юля ўзяла з сабою на прэзентацыю і дзясятак кніг, якія хутка былі набытыя прысутнымі з аўтографам аўтаркі для кожнага асабіста. У залі прысутнічала значная колькасць моладзі, якая з асаблівай цікавасцю слухала выступы і адкрывала для сябе невядомыя старонкі нацыянальнай гісторыі. Сустрэча аўтаркі з чытачамі адбывалася ў цёплай сяброўскай атмасферы, людзі доўга не разыходзіліся і бавілі час у размовах і ўспамінах.

*Паводле Ганны Сурмач, "Радыё Свабода"*

# Выйшлі ўспаміны Вітаўта Кіпеля




У Мінску ў выдавецтве Змітра Коласа выйшла кніга ўспамінаў аднаго з "патрыярхаў" беларускай паваеннай эміграцыі доктара Вітаўта Кіпеля — "Жыць і дзеіць".

Вітаўт Кіпель нарадзіўся ў Мінску ў 1927 годзе ў сям'і беларускіх педагогаў у часы "першай беларусізацыі". Аднак нацыянальна-дзяржаўнае развіццё Савецкай Беларусі было неўзабаве гвалтоўна спынена, і ў 1930 годзе бацька Вітаўта — Яўхім Кіпель — быў арыштаваны, абвінавачаны ў "нацыянал-дэмакратызме" і высланы ў Налінск Вяцкай вобласці.

Сям'я палітычнага ссыльнага — чатырохгадовы Вітаўт з маці — выехала за ім у Налінск, і з гэтага пачалася доўгая дарога аўтара ўспамінаў праз розныя гістарычныя эпохі і кантыненты.

Дзяцінства ў "нацдэмаўскім" Мінску, жыццё ў расійскай высылцы, юнацтва ў акупаваным Мінску, маладосць у Нямеччыне і Бельгіі, сталае жыццё ў Злучаных Штатах — амаль стагоддзе беларускай гісторыі, дзе аўтар, чалавек незвычайнага лёсу, быў у гушчы падзеяў палітычнага, грамадскага і культурнага жыцця.

Пасля 1991 года аўтар часта бываў у Беларусі і дзеліцца ў кнізе сваімі ўражаннямі аб краіне і людзях.

У прадмове да кнігі даўні аўтараў сябра, беларускі эміграцыйны гісторык, журналіст і грамадскі дзеяч Ян Запруднік піша:

"Кніга Вітаўтавых успамінаў адзначаецца лаканічным апавядальным стылем, які абумоўлены тым, што спачатку тэкст быў электронна нагавораны ў гутарцы з рэдактарам, Сяргеем Шупам, а пасля пакладзены на паперу. Адсюль дынаміка аповеду: кароткія сказы й рэплікі, людзі, факты, гістарычныя асобы, трагічныя падзеі, забаўныя выпадкі. Жыццё апавядальніка было нагэтульки насычанае, што ён, каб расказаць пра ўсё, як бы спяшаецца, пазбягаючы лішніх слоў. Кніга адзначаецца дынамізмам аповеду, лёгкасцю чытання, гэта — сапраўдны падзейны калейдаскоп.

Другая адзнака ўспамінаў — аўтарава ёмістая памяць, у якой захавалася на дзіва шырокая й дэталізаваная панарама быту, насвятлення ўнікальна драматычнай эпохі".

Тэкст успамінаў дапаўняе каля сотні фотаздымкаў і паказальнік імёнаў, які ўлучае каля 800 асобаў.

*Паводле "Радыё Свабода"*

# У Новасібірску трагічна загінула Ніна Кабанава



Міністэрства культуры Новасібірскай вобласці паведаміла аб трагічнай гібелі дырэктара Новасібірскага цэнтра беларускай культуры Ніны Васільеўны Кабанавай.

Ніна Кабанава (Мазалоўская) нарадзілася 3 кастрычніка 1952 ў вёсцы Лазарэвічы (Быхаўскі раён, Магілёўская вобласць).

У 1977 годзе яна пераехала на сталае жыхарства ў Новасібірск. З 1998 года брала актыўны ўдзел у грамадскім жыцці беларускай дыяспары на грамадскіх пачатках.

У 2000 годзе па рэкамендацыі грамадскіх арганізацый беларусаў Ніна Кабанава была прызначаная дырэктарам Новасібірскага цэнтра беларускай культуры.

Пад яе кіраўніцтвам цэнтр на працягу 15 гадоў вёў вялікую працу па адраджэнні, захаванні і развіцці беларускай культуры ў рэгіёне.

Сёння ў месцах кампактнага пражывання беларусаў (а гэта 18 раёнаў) больш за 100 дарослых і дзіцячых харэаграфічных, вакальных і інструментальных калектываў маюць у сваім рэпертуары беларускія творы. Пры цэнтры працуюць 6 дзіцячых клубных фарміраванняў.

Ніна Васільеўна была ініцыятарам правядзення штогадовых абласных мерапрыемстваў з удзелам гасцей з Расіі і блізкага замежжа.

*Паводле Марыны Шышкінай, "Товарищ.online"*

***Ніна Кабанава была сябрам Вялікай Рады МГА "ЗБС "Бацькаўшчына".***

***Управа Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" выказвае шчырыя спачуванні ўсім сваякам, калегам, сябрам Ніны Кабанавай, усім, хто яе ведаў і паважаў. Светлая ёй памяць і супакой яе душы!***

# У Таронта памерла беларуская дзяячка Марыя Ганько



Марыі Ганько не стала 20 ліпеня. Ёй было 85 гадоў.

Марыя Ганько (народжаная Кулеш) нарадзілася ў 1930-м у Шчокаўшчыне каля Хаценчыцаў (сёння – Вілейскі раён). Тады гэта былі заходнебеларускія землі ў складзе Польшчы.

Сям'я Куляшоў была вялікая: бацькі гадавалі дзявяцера дзяцей, а розніца паміж найстарэйшым і наймалодшым складала 21 год.

"Як толькі дзіцё пачынала хадзіць, яму адразу знаходзілі нейкую працу – трэба было трымаць салідную гаспадарку. Памятаю, як прыгожа на тыя часы маці трымала хату, старанна сачыла за чысцінёй. Але савецкія ўлады дзве сям'і раскулачылі й выслалі ў Сібір, астатнія таксама былі ў спісе".

У 1944 г. Марыя разам з сям'ёй шваґра (бацька памёр у 1943-м), каб не выпрабоўваць лёс напярэдадні другога прышэсця саветаў, вырашылі падавацца на Захад. Яны апынуліся нават пад Берлінам, дзе у адзін з дзён трапілі пад моцную бамбёжку. Па вайне перабраліся пад Беласток. Там Марыя скончыла школу, тэхнікум, працавала ў арганізацыі, якая займалася экспартам прадуктаў харчавання ў вёскі.

У 1957-м яна наведала Беларусь, як яна пісала, "маючы надзею застацца на радзіме", да таго ж там заставалася мама. Але страшэнная галеча беларускай вёскі моцна ўразіла. У вясковай краме амаль нічога нельга было купіць.

"Толькі-толькі скончылася сталінскае рабства, калі не было пашпартоў, і ўсе маладыя і працаздольныя кінуліся ў гарады. Заставацца ў вёсцы азначала прызнаць, што ты ўжо нічога не варты".

Марыя вярнулася ў Польшчу, а ў 1959-м прыйшоў выклік ад брата Міхася, што жыў у Канадзе, і маладая жанчына праз год рашылася на пераезд.

Ледзь не ў першыя выходныя яна пайшла на сход беларускай грамады пры царкве св. Кірылы Тураўскага ў Таронта, дзе пазнаёмілася з адным з лідараў беларускага жыцця, шматгадовым старшынёй Згуртавання беларусаў Канады Міколам Ганько (малодшым братам лідара СБМ Міхася Ганька).

"Назаўтра, у нядзелю, была багаслужба. Пасля набажэнства Мікола запрасіў мяне паехаць на Ніягару. Шмат разоў я бывала на Ніягары, але першага ўражання я не забуду ніколі… З той паездкі іншыя людзі для мяне не існавалі. Новы год мы сустракалі разам, і ў адказ на прапанову Міколы стаць ягонай жонкай, я згадзілася. Дзень вянчання памятаецца, як учора".

Марыя ўладкавалася ў краму. Яна размяркоўвала па крамах тавар са складу. Заробак быў невялікі, муж зарабляў някепска. Урэшце яго нервы не вытрымалі і ён сказаў: "Хопіць, лепей цалкам сканцэнтравацца на грамадскай працы. І тады я з галавой акунулася ў грамадскае жыццё".

Марыя Ганько брала ўдзел у працы ЗБК, парафіі св. Кірылы Тураўскага, была доўгачасовым скарбнікам царкоўнай парафіі.

Марыя Ганько падтрымлівала розныя беларускія справы і праекты. Выпусціла ў гонар мужа, што памёр у 1999-м, кнігу "Каб сведчылі пра Беларусь" (2005). У 2009-м заснавала "Прэмію імя Міколы Ганько", якая ўручаецца за ўнёсак у справу даследавання ці прапаганды беларускай справы. Сярод лаўрэатаў – Вольга Іпатава, Віялета Кавалёва, ЗБС "Бацькаўшчына", настаўніца з Асіповіцкага раёна Надзея Сакава.

Падтрымлівала, чытала, ахвяравала. Зрэшты, звычайная справа для беларускай грамады ў замежжы.

*Паводле "Нашай Нівы"*

***Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" выказвае шчырыя спачуванні ўсім, хто ведаў і шанаваў спадарыню Марыю. Няхай пухам ёй будзе зямля! Светлая памяць!***

## У ВІЛЬНІ ЎШАНАВАЛІ ПАМЯЦЬ БЕЛАРУСАЎ

25–26 ліпеня Таварыства беларускай культуры ў Літве сумесна з "Брацтвам у гонар Віленскіх мучанікаў Антонія, Іаана і Яўстафія" Беларускай праваслаўнай царквы ўзялі ўдзел у шэрагу сумесных мерапрыемстваў па ўшанаванні памяці беларусаў-віленчукоў, што знайшлі свой спачын у Вільні.

Мерапрыемствы распачаліся 25 ліпеня агульнай імпрэзай, на якой была падпісана дамова паміж Таварыствам беларускай культуры ў Літве і "Брацтвам у гонар Віленскіх мучанікаў Антонія, Іаана і Яўстафія" Беларускай праваслаўнай царквы аб узаемасупрацоўніцтве.

У часе мерапрыемства прадстаўнікі Брацтва распавялі аб сваёй дзейнасці, якая распачалася з 1992 года, прадставілі свае выдавецкія праекты. Напрыканцы імпрэзы для бібліятэкі ТБК падаравалі свае новыя кнігі.



26 ліпеня ўдзельнікі мерапрыемстваў сустрэлі на праваслаўных Еўфрасіньеўскіх могілках Вільні, дзе разам ушанавалі памяць тых, хто тут знайшоў вечны спачын. Мерапрыемства распачалося з агульнай малітвы ля магілы дырэктара Віленскай беларускай гімназіі і выкладчыка Віленскай праваслаўнай духоўнай семінарыі Сяргея Паўловіча. Малебен распачаў настаяцель Еўфрасіньеўскіх могілак мітрафорны протаіерэй Уладзімір Рынкевіч. Пасля ўдзельнікі наведалі магілы іншых знакамітых беларусаў, што спачываюць на гэтых могілках.

Мерапрыемства завяршылася спяваннем беларускага рэлігійнага гімна "Магутны Божа" ля магілы Аляксея Арсеньева, бацькі беларускай паэткі, Наталлі Арсеньевай, якая і з'яўляецца аўтаркай гімна. Магчыма, мы былі першымі, хто праспяваў гэты спеў ля магілы А. Арсеньева.

*Паводле Алеся Адамковіча, westki.info*

## БЕЛАРУСКІЯ ПАМЕЖНІКІ НЕ ПУСЦІЛІ Ў КРАІНУ АРХІЕПІСКАПА БАПЦ

У пятніцу 31 ліпеня ў прапускным пункце Новая Гута ў Гомельскай вобласці памежнікі не прапусцілі ў Беларусь архіепіскапа Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы (БАПЦ) Святаслава (Логіна). Ён ехаў у Беларусь на запрашэнне беларускіх вернікаў БАПЦ.

Архіепіскап Святаслаў служыць у Амерыцы, а ў Беларусь ехаў праз Чарнігаў (Украіна), дзе жыве ягоная маці, паведаміў ён у сваім лісце вернікам БАПЦ.

Лукашэнкаўскія ўлады не дазваляюць дзейнічаць БАПЦ у Беларусі, бо супраць гэтага выступае Руская праваслаўная царква Маскоўскага патрыярхату.

*"Наша Ніва"*

## У КАНАДСКІМ "СЛУЦКУ" АДЗНАЧЫЛІ БЕЛАРУСКАЕ КУПАЛЛЕ

У канадскім "Слуцку" 4 ліпеня канадскія беларусы адзначылі Купалле. Удзел у святкаваннях узялі 140 чалавек. Многія прыехалі ў вышыванках і выцімайках.

Падчас святкавання адбываліся святочны кірмаш, парад строяў, гульні для дзяцей і дарослых, беларускія спевы і танцы.

"Слуцак" — так называецца беларуская база адпачынку недалёка ад Таронта ў Канадзе.

У 1966 г. Згуртаванне беларусаў Канады набыло ферму, неўзабаве быў створаны дом адпачынку. Цяпер там рэгулярна збіраюцца беларусы Канады.

*"Радыё Свабода"*

## БЕЛАРУСЫ ШВЕЦЫІ СВЯТКАВАЛІ КУПАЛЛЕ

У Стакгольме ў ноч з 4 на 5 ліпеня 2015 года моладзевы актыў беларусаў Швецыі адзначыў Купалле. Свята наведалі госці з некалькіх краінаў, у тым ліку мясцовыя жыхары.

На пачатку лета, натхніўшыся прыкладам украінскай дыяспары, беларусы Швецыі вырашылі ладзіць пэўныя актыўнасці як мінімум штомесяц. Першай спробай стала арганізацыя вечара беларускіх настольных гульняў у сярэдзіне чэрвеня, пасля чаго мы паспрабавалі сябе ў "больш сур'ёзным фармаце" і адзначылі Купалле. Распавяду пра мерапрыемства са свайго боку, таксама дадам пару словаў ад астатняй каманды.

Арганізоўвалі невялічкім актывам разам з Аляксеем Мельнікавым (з праўлення афіцыйнай суполкі дыяспары), праваабаронцам актывістам Сяргеем Андросенкам і яго партнёрам Аляксеем Кулікам. Праграму пачалі ствараць яшчэ на пачатку чэрвеня, сканцэнтраваліся на тым, каб адлюстраваць як мага больш старажытных купальскіх традыцый, але зрабіць свята, цікавае для сучаснай моладзі і дарослых незалежна ад нацыянальнасці. Каб падтрымліваць атмасферу менавіта беларускага свята, падабралі адпаведную музыку, нацыянальную вопратку, стужкі з арнаментамі.

Свята ладзілі цалкам сваімі сіламі, не прыцягвалі ані спонсараў, ані грантаў. Канечне, фармат атрымаўся трошкі аматарскі, але кожны працаваў аддана і ўкладаў душу і час так шмат, як атрымлівалася. Распрацавалі праграму ад пачатку вечара ажно да раніцы, але, вядома, ніхто, нават арганізатары, не ведалі, як усё адбудзецца на самой справе, як паставяцца да свята госці. І атрымалася выдатна!

Распавядае Алекс Мельнікаў: "Свята атрымалася захапляльным не толькі для нас, але і для шматлікіх сяброў з Украіны, Расіі, Швецыі і, дарэчы, прыцягнула шмат каго з выпадковых людзей, якія адпачывалі побач. Яны цікавіліся прыгожымі і чароўнымі традыцыямі і бел-чырвона-белым сцягам, які мы мелі на свяце. Застаецца толькі спадзявацца, што і самі мясцовыя беларусы выкажуць большую цікаўнасць наступным летам!"

Таксама дадае Сяргей Андросенка: "Адна з мэтаў нашай арганізацыі – гэта спрыяць захаванню беларускай мовы і ідэнтычнасці, нашае Купалле таксама файна спрацавала і на іншыя мэты "Беларусаў Швецыі": аб'ядноўваць і ствараць кантактную платформу для беларусаў, якія жывуць у Швецыі; спрыяць развіццю кантактаў паміж народамі Швецыі і Беларусі; распаўсюджваць веды і абуджаць грамадскую думку вакол Беларусі ў Швецыі. Таксама мы з захапленнем назіралі, як "Згуртаванне беларусаў Канады" арганізуе Купалле ў Таронта, наша каманда не хацела ў культурным плане Скандынавію пакідаць без гэтага вясёлага традыцыйнага папулярнага беларускага свята.

*Паводле Ірыны Азаранка – для ЗБС "Бацькаўшчына"*
*Цалкам тэкст чытайце на zbsb.org*

# 100 ГАДОЎ АНТОНУ ШУКЕЛОЙЦЮ



19 ліпеня лік беларускіх доўгажыхароў у замежжы папоўніўся імем сп. Антона Шукелойця, шырока вядомага ў беларускім замежжы і на Бацькаўшчыне грамадскага, палітычнага і культурнага дзеяча.

Слаўны юбілей сп. Шукелойця ўрачыста адзначаўся беларускай грамадою ў Нью-Ёрку. У грамадскай залі пры Саборы Св. Кірылы Тураўскага на Атлантык Авеню 401 сабралася багата людзей. Усе чакалі юбіляра і сустрэлі яго апладысментамі.

Урачыстасць ладзіў Бруклінскі аддзел БАЗА. Напачатку ў залі загучаў гімн "Не пагаснуць зоркі ў небе" ў выкананні хору "Унія".

Першае слова для прывітання юбіляра ўзяў сп. Расціслаў Гарошка – старшыня Парафіяльнай рады Сабора, у залі якога адбывалася свята. Ён нагадаў пра актыўную ролю сп. Шукелойця, якую той адыграў пры куплі гэтага будынка.

Сп. Шукелойць пражыў да юбілею не проста доўгае, але паўнавартаснае, змястоўнае, годнае жыццё. Заўсёды быў дзейсным, актыўным, здабываў асвету і выкарыстоўваў напоўніцу свае веды дзеля грамадскай працы. Далучыўся да беларускага жыцця ў міжваеннай Вільні, перажыў нямецкую акупацыю ў Мінску і здолеў у гэты складаны час знайсці магчымасці працаваць на карысць беларускай справы. І на эміграцыі ён знайшоў сваё месца, каб далей працягваць плённую беларускую дзейнасць. Браў удзел амаль ва ўсіх кірунках грамадскай працы сярод беларускай эміграцыі ў Амерыцы. Цягам 32 гадоў сп. Шукелойць узначальваў Беларуска-Амерыканскае Задзіночанне, якое аб'ядноўвае беларусаў цэлай Амерыкі і ёсць найстарэйшаю беларускай арганізацыяй у гэтай краіне, заснаванай у 1949 годзе.

Сп. Шукелойць належыць да паваеннай хвалі беларускай эміграцыі ў Амерыку, якая дзейнічала найбольш плённа, і менавіта дзякуючы ёй амерыканцы даведаліся пра Беларусь. Шаноўнымі гасцямі юбіляра былі ягоныя паплечнікі са старэйшага пакалення – знакамітыя беларускія дзеячы Вітаўт Кіпель і Янка Запруднік.

Сп-ня Ганна Сурмач прывітала юбіляра ад імя Беларуска-Амерыканскага Задзіночання. Таксама выступілі сп. Зянон Пазьняк, сп-ня Ала Орса-Рамана, сп-ня Валянціна Якімовіч. Сп. Юрка Азарка прывітаў юбіляра ад імя Аддзела БАЗА ў Нью-Джэрсі, а сп. Віталь Зайка прамаўляў ад імя Беларуска-Амерыканскага Згуртавання "Пагоня". Была на свяце і госця з Беларусі – Марыя Флар'яновіч з дачкою Ганнаю Галеба, якая жыве ў Бостане. Яны выступілі з прывітаннем і перадалі па-мастацку аформленае віншаванне ад вядомага мастака Міколы Купавы.

З Беларусі пісьмова віншавалі сп. Шукелойця ад імя Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына".

Былі зачытаныя цёплыя віншаванні ад беларусаў Канады, якое даслалі старшыня Галоўнай управы Згуртавання беларусаў Канады Зміцер Эльяшэвіч і старшыня Парафіяльнай рады Царквы св. Кірылы Тураўскага ў Таронта Надзея Дробіна, ад Гуртка БАЗА у Вашынгтоне, якое даслала яго старшыня Алеся Кіпель, ад Кацярыны і Яраслава Вініцкіх з Каліфорніі – старэйшых сяброў БАЗА, якія належаць да хвалі паваеннай эміграцыі, а таксама ад сям'і Стагановічаў з Нью-Джэрсі і ад Лёлі Касоўскай.

Прыемным завяршэннем свята стаўся выступ Сержука Сокалава-Воюша. Шмат хто з прысутных нават падпяваў барду, калі ён выконваў знакаміты "Аксамітны летні вечар"... Сяржук прысвяціў сп. Антону свой новы верш пад выразнай назваю "Сто".

Не абышлося, вядома, і без святочнага торта, які выпекла маладая сяброўка БАЗА і падаравала юбіляру, каб частаваў гасцей. Было шмат кветак і традыцыйнае пажаданне: "Шмат год, шмат год, шмат гадоў!"

*Ганна Сурмач*

*Фота Сяргея Трэгубавіча*

***Віншаванне Антону Шукелойцю ад Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына"***

*Шаноўны спадар Антон!*

*Дазвольце павіншаваць вас са знакавай падзеяй - стагоддзем з Дня Вашага нараджэння! Няхай Вам яшчэ шмат гадоў жывецца спакойна, шчасліва і радасна!*

*Сёння адметны дзень у Вашым жыцці і для беларусаў свету. Для ўсіх нас вы ўзор шляхетнасці і адданасці Радзіме. На Вашых вачах прайшла цэлая эпоха, Вы зведалі і светлыя, і змрочныя часы. Вы годна ішлі па пакручастых сцяжынах лёсу, і хоць усякае даводзілася перажываць, Вы неадменна прысвячалі сябе любай Радзіме - Беларусі.*

*Вы шмат зрабілі для школьніцтва, многа сілаў аддалі музейнай, краязнаўчай, этнаграфічнай справе, што дало падмурак для розных пакаленняў беларусаў! І пасля, апынуўшыся за межамі роднага краю, вы не збочылі з абранага шляху, а працягвалі руплівіца пра Беларусь, бо прывезлі яе ў сваім сэрцы. Пад Вашым кіраўніцтвам ядналіся доўгія гады беларусы ЗША.*

*Прыміце нашу глыбокую пашану, шаноўны спадар Антон! Ад шчырага сэрца зычым Вам моцнага здароўя, нязгаснага аптымізму, надзейных і ўважлівых сяброў ды паплечнікаў!*

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

*19 ліпеня 2015 года*

**Беларусы ў свеце**
№ 7 (159), ліпень 2015

Інфармацыйны бюлетэнь МГА "ЗБС "Бацькаўшчына". Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.
Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – А. Башарымава.
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская.
Наклад 250 асобнікаў.

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906,
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb.minsk@gmail.com

тэл./факс (+375 17) 200-70-27